1 лютага 1863 году падпольны правінцыйны камітэт на чале з Кастусём Каліноўскім абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі. Так распачалася двухгадовая барацьба беларусаў за свабоду грамадзян і свабоду краіны.

У 2013 годзе Беларусь адзначае 150-годдзе падзей, якія заклалі падмурак нацыянальнай ідэі незалежнасці краіны і ў значнай ступені паўплывалі на далейшае, доўгае і пакутнае, станаўленне беларускай дзяржаўнасці.




# Мужыцкая праўда №3 (10)

Першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газета Беларусі.
Выдавалася з ліпеня 1862 па чэрвень 1863 году. Адноўлена ў лютым 2013-га у гонар 150-годдзя паўстання.


# Гарачы травень 1863-га

***Вясна 1863 году была найбольш насычана на падзеі ў паўстанні Каліноўскага. Самаадданая барацьба, гераічнасць і перакананасць касінераў на поўную моц сышлася з рэпрэсіўнай машынай царскага ўраду - жорсткім і цынічным вайскова-адміністрацыйным апаратам Мураўёва-вешальніка, які прывёў на падаўленне паўстання амаль усе вайсковыя рэзервы імперыі. Гэта быў вырашальны момант, з якога пачалася трагічная развязка нацыянальна-вызвольнага ўздыму. Але тады ж, у агоніі і пакутах, была да канца сфармавана Беларуская ідэя Каліноўскага - ягоная мара пра вольную краіну з роўнымі і годнымі грамадзянамі, што жывуць паводле законаў, а не ўказаў.***

Першыя атрады паўстанцаў з'явіліся на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў студзені-лютым 1863 году. Найбольш значным з іх быў атрад Р. Рагінскага, які ў сутычках з урадавымі войскамі дайшоў рэйдам да Слуцкага павета, дзе і быў разбіты. Масавае фарміраванне мясцовых атрадаў пачалося ў сакавіку-красавіку. Многія з іх былі знішчаны карнікамі адразу. Адносны поспех мелі ў пачатку выступлення паўстанцы пад камандаваннем Л. Звяждоўскага, якім удалося з дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута заняць у ноч на 24-га красавіка павятовы горад Горкі Магілёўскай губерні. Аднак там яны не сустрэлі істотнай падтрымкі мясцовых сялян, і неўзабаве атрад Звяждоўскага таксама быў разбіты.

Няроўнасць сіл вымушала паўстанцаў прытрымлівацца партызанскай тактыкі барацьбы. Спадзяванні на замежную дапамогу не спраўдзіліся. Заходнія краіны абмежаваліся толькі дыпламатычнымі нотамі пратэсту. А марскую экспедыцыю, што мелася даставіць да літоўскіх берагоў валанцёраў і зброю з Брытаніі, затрымалі шведскія ўлады. Трагічна скончылася і травеньская спроба высадзіць паўстанцкі дэсант з парусніка «Эмілія» паблізу Мемеля (Клайпеды). У справе дыпламатыі царскія ўлады пераігралі інсургентаў.

Амуніцыя і правіянт касінераў таксама саступалі забеспячэнню арміі захопнікаў. Агнястрэльнай зброі не ставала, паўстанцы-сяляне амаль усе ваявалі толькі сякерамі ды косамі. Інсургенты нападалі на царскія войскі там, дзе колькасць апошніх не была занадта вялікай, захоплівалі павятовыя касы, адбівалі навабранцаў-рэкрутаў. Але часам адбываліся і буйныя сутычкі паміж варагуючымі бакамі. Найбольш значная – бітва пад Мілавідамі, (цяпер Баранавіцкая вобл.), што адбылася 22 траўня 1863 года. Перамога тады не дасталася нікому. Пасля некалькіх гадзін бою расійскія войскі з вялікімі стратамі мусілі адступіць. А паўстанцы, не сталі чакаць, пакуль праціўніку прыйдзе падмацаванне, і таемна пакінулі свой лагер.



Бой касінераў з царскімі войскамі. Тагачасная гравюра

Абмежаваная праграма паўстання, што была прапанаваная «белымі», выключыла магчымасць масавага ўдзелу ў ім сялянства. Буйныя землеўласнікі і буржуазія, што раней выступалі нагогул супраць паўстання, калі яно пачало набіраць моц, вырашылі ўзяць ход барацьбы пад уласны кантроль, каб не дапусціць разгортвання шырокай народнай вайны з удзелам сялян. У лютым 1863 -га адбыўся «белы пераварот», калі буйныя памешчыкі, увайшоўшы ў змову з польскім цэнтрам, захапілі ўладу ў віленскай паўстанцкай арганізацыі. 27 лютага быў распушчаны Літоўскі Правінцыйны Камітэт - галоўны орган кіравання паўстаннем на Беларусі. Замест яго «белыя» стварылі свой Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы на чале з Я. Гейштарам. Каліноўскі быў накіраваны на Гродзеншчыну, на пасаду ваеннага камісара, што сам Кастусь ў сваім лісце назваў «гібеллю і здрадай рэвалюцыі».

Кіраванне «белых» мела фатальныя наступствы для ідэі «усенароднага ўздыму», якую актыўна і паспяхова рэалізоўваў Кастусь Каліноўскі. Афіцыйная царская прапаганда выстаўляла ўзброеную барацьбу як мяцеж польскіх паноў, якія жадаюць вярнуць стары прыгонніцкі лад. Тое, што «белае» кіраўніцтва паўстаннем складалі ўжо адныя памешчыкі, толькі ўпэўнівала сялян у правільнасці расійскай прапаганды. Скасаванне часоваабавязанага становішча і змяншэнне выкупных плацяжоў на 20% яшчэ больш умацавала сялянскую веру ў «цара-бацюхну». Па вёсках, асабліва ў памежных з Расіяй рэгіёнах, ствараліся «сельскія каравулы» з узброеных сялян, якія пад камандаваннем рускіх салдат павінны былі лавіць паўстанцаў. Альтэрнатыўная пазіцыя і меркаванне новага паўстанцкага кіраўніцтва да шырокага кола насельніцтва ніяк не даносілася. «Мужыцкая праўда» Каліноўскага ў час самога паўстання выйдзе толькі адзін раз, і тое летам, калі Каліноўскі зноў узначаліць паўстанне пасля капітуляцыі «белых».

У сярэдзіне траўня сітуацыя ўскладнілася, калі ў на пасаду віленскага генерал-губернатара прыбыў з надзвычайнымі паўнамоцтвамі М. М. Мураўёў. Былы дзекабрыст, які здрадзіў ранейшым поглядам, чалавек, што прымаў удзел у падаўленні папярэдняга паўстання 1830 года, ён усталяваў у краі становішча масавага тэрору, за што і атрымаў ад сучаснікаў мянушку Вешальніка. Да забароны насіць жалобныя строі дадаліся новыя, яшчэ больш жорсткія пастановы. Мураўёўцы не грэбавалі нічым. Няўгоднаму маглі вельмі проста падкласці зброю ці нейкія іншыя кампраметуючыя рэчы. А далей… Дастаткова было двух сведкаў (на іх мінулае і сумленне ніхто не зважаў), каб ваенны суд мог прыгаварыць любога чалавека да смерці. Па малейшым падазрэнні ў спачуванні паўстанцам людзей высылалі ў Сібір. Спальваліся за сувязь жыхароў з інсургентамі цэлыя вёскі. Беластоцкі жандарскі штаб-афіцэр С. І. Штэйн у сваім «Донесении… …о сожжении с. Яворовки за активное содействие его жителей повстанцам» пісаў:

***«…по распоряжению начальника края, жилые дома… …с хозяйственными строениями… …6-го сего августа сожжены до основания, а скот, всё движимое имущество, вместе с жителями доставлены в г. Белосток, где оные… …находятся под арестом, а имущество продаётся с аукционного торга…».***

Тыя салдаты імперскай арміі, якіх сумленне пераводзіла на бок паўстанцаў, падлягалі расстрэлу.

Некаторыя акцыі вешальніка проста ўражваюць непрыхаваным цынізмам. Гэтак ёсць звесткі, што на загад «начальніка краю» магілы страчаных паўстанцаў заліваліся вывезеным з віленскіх прыбіральняў гноем, каб не дапусціць правядзення побач маўклівых маніфестацыяў.

У чэрвені пракацілася цэлая хваля арыштаў членаў Віленскага паўстанцкага аддзела. Замены арыштаваным не

**19 стагоддзе было эпохай самавызначэння народаў, адыходу ад саслоўнага грамадства і фармавання нацыянальных дзяржаваў. Менавіта тады на мапе Еўропы з'явіліся назвы большасці сучасных краінаў. Беларусы ў той час не мелі ўласнай дзяржавы. Сама назва Беларусь толькі пачала ўжывацца ў дачыненні да гэтых зямель, адрозніваючы нас ад іншых народаў былога ВКЛ – украінцаў, жамойтаў (летувісаў).**

**Рэвалюцыя пад кіраўніцтвам Каліноўскага - гэта першая спроба змагання за незалежнасць ужо беларусаў, як цэласнай і аднароднай нацыі. У адрозненні ад ранейшых саслоўных паўстанняў (шляхецкіх 1794 і 1830-х гадоў за аднаўленне Вялікай Літвы і Рэчы Паспалітай, альбо сялянскіх бунтаў) – у рэвалюцыі 1863-64 г.г. на адным баку стаялі і шляхцічы, і мяшчане, і прыгонныя.**

**Кастусю Каліноўскаму ўдалося спарадзіць агульнае бачанне новай беларускай дзяржавы, незалежнай, і з роўнымі па статусу, вольнымі грамадзянамі. На стагоддзі гэты ідэал стаў марай і мэтай для новых і новых пакаленняў беларускіх патрыётаў.**

**Расейскія імперскія ўлады ў першай палове XIX ст. актыўна навязвалі найменне беларус у дачыненні да праваслаўнага (пераведзенага з уніяцтва) сялянскага насельніцтва краю. Яны разлічвалі стварыць «беларускую» альтэрнатыву «ліцвінскаму» самаўспрыманню народу колішняга ВКЛ. Паўстанне Каліноўскага стала сапраўдным шокам для ідэолагаў імперыі. Выявілася, што і самавызначаючыся як Беларусь, народ гэтай краіны ўсё адно ўпарта імкнецца да незалежнасці і вызвалення ад «брацкіх абдымкаў».**

**Пасля задушэння паўстання назва Беларусь была забаронена, ўжыванне мовы мясцовага насельніцтва жорстка пераследавалася. Вялося актыўнае перасяленне расейскага сялянства на абсягі ўжо «Паўночна-заходняга краю». Аднак імкненне народу да волі і незалежнасці нікуды не знікла. Яно захавалася ў генах «тутэйшых» да больш зручнага гістарычнага моманту. Менавіта яно заўжды падказвала беларусам, дзе - няхай і забароненае - сваё, а дзе - няхай і навязваемае - чужое.**


Мураўёў на пакаранні паўстанцаў

знаходзілася, і «белыя» былі вымушаны вярнуць у Вільню Каліноўскага. Пры ім, каб вярнуць страчаны давер сялянства, ад імя «ронду польскага» быў выдадзены «Прыказ... ...да народу зямлі літоўскай і беларускай», галоўная думка якога зводзілася да таго, што:

***«дзела наша (паўстанне) – не дзела панскае, а справядлівай вольнасці»***.

Такім чынам, «чырвоныя» зноў сталі на чале паўстання. Каліноўскі абвінавачаў варшаўскі цэнтр у неразуменні патрэб Беларусі і аднавіў сваю палітыку на дасягненне незалежнасці Вільні ад Варшавы ды раўнапраўя ў адносінах паміж імі. Але Варшава ўжо і не хацела змагацца. Буйныя памешчыкі і вышэйшае каталіцкае духавенства, напалоханыя мураўёўскімі рэпрэсіямі, у чэрвені-ліпені ўжо масава перайшлі на бок афіцыйных уладаў, што замацоўвалася падпісаннем вернападданніцкіх адрасоў Аляксандру II. У процівагу вернападданніцкім адрасам інсургенты арганізоўвалі збор подпісаў пад контрадрасамі, якія планавалі пазней апублікаваць у замежным друку. Аднак пазней, паўстанцкае кіраўніцтва само было вымушана дазволіць падпісанне тых адрасоў Аляксандру II, бо кожнага, хто адмаўляўся паставіць подпіс пад гэтым дакументам, маглі аддаць пад суд.

Каліноўскі і ягоныя паплечнікі засталіся вернымі сваім прынцыпам. Нават у безнадзейнай сітуацыі яны спрабавалі хоць неяк змяніць расклад сілаў: за зваротам да народу Беларусі выйшла чарговая «Мужыцкая праўда». Кіраўнікі засяродзіліся на справе пераканання сялянства ў патрэбе далейшага змагання за вольнасці краю. Вялося актыўнае назапашванне вайсковых рэсурсаў для далейшай барацьбы. Ад адкрытых баёў паўстанцы вымушаны былі адмовіцца, але часцяком здараліся лакальныя сутычкі інсургентаў з царскімі ўраднікамі.

Вясна 63-га вырашыла, бадай што, ўсё. Пасля фатальных памылак аднавіць папярэдні накал паўстання ўжо не ўдалося. Кастусь Каліноўскі аддана працягваў барацьбу за свае ідэалы да 22 сакавіка 1864 году, пакуль яго не спыніла царская шыбеніца. Беларусь з гэтага часу стала арэнай дзікай рэакцыі. Беларускі народ не прызнаваўся, як і раней, самастойным этнасам, наша мова трапіла пад забарону, культурныя здабыткі знішчаліся ці вывозіліся ў Расею. Да канца 60-х гадоў край заставаўся на ваенным становішчы, а гэта значыць, працягвалі дзейнічаць выключныя законы ваеннага часу. Была зачынена адзіная вышэйшая школа, што заставалася на Беларусі – Горы-Горацкі земляробчы інстытут, і далейшыя хадайніцтвы аб адкрыцці на нашых землях ВНУ адхіляліся расійскім урадам. Больш за тое, нават колькасць гімназіяў у краі здавалася Мураўёву завялікай. Замест іх планавалася адчыніць народныя вучэльні, дзе выкладанне павінна было весціся цалкам у духу адданасці рускаму самадзяржаўю. Рэзка актывізавалася «водворение русского элемента»: мясцовыя настаўнікі, чыноўнікі пераводзіліся на службу ў цэнтральныя губерні імперыі, адтуль жа запрашаліся для работы на вызваленых месцах карэнныя рускія. Царскія генералы і чыноўнікі маглі на ільготных умовах набываць маёнткі, канфіскаваныя ва ўдзельнікаў паўстання.

Але разам з тым у выніках паўстання было шмат пазітыўнага. Пад пагрозай народнай рэвалюцыі, царызм быў вымушаны пайсці на значныя ўступкі беларуска-літоўскаму сялянству і змякчыць для яго ўмовы лютаўскай рэформы 1861 года. Апроч таго, менавіта тады сфармаваліся асновы самастойнага, без аглядкі на Польшчу (Рэч Паспалітую), беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Выразнікам і першым носьбітам гэтых ідэй і быў Кастусь Каліноўскі. Дзякуючы людзям, якія пазбеглі арышту і засталіся вернымі справе незалежнасці, у тым ліку літаратарам, мастакам, навукоўцам, вырасла новае пакаленне барацьбітоў за Беларусь, з імёнамі якіх звязана наша нацыянальнае адраджэнне ў пачатку XX стагоддзя.

**Польскія рэвалюцыйныя колы, абвесціўшы сябе Польскім нацыянальным урадам у 1863 годзе, разлічвалі адрадзіць Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву. У рэвалюцыйнае кіраўніцтва ўваходзілі ў асноўным прадстаўнікі буйных феадальных сем'яў. У паўстанні яны разлічвалі больш на палітычны ціск і дыпламатычную дапамогу іншых краінаў. Сялянскае пытанне ж наогул не разглядалася Варшаўскім камітэтам.**

**Аднак на Беларусі мэты і шляхі інсургентаў былі іншымі. Кастусь Каліноўскі, які ўзначальваў Літоўскі правінцыйны камітэт, быў заўзятым прыхільнікам фракцыі чырвоных (рэвалюцыянер-дэмакратаў). Яны, у адрозненні ад белых (манархістаў-кансерватараў), адстойвалі персанальныя грамадзянскія свабоды і выступалі за нацыянальнае самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай.**

**Прынцыпы Каліноўскага не падабаліся варшаўскаму кіраўніцтву паўстання, і 27 лютага 1863-га яны дамагліся парадачы кіравання паўстаннем віленскаму камітэту «белых». Аднак пасля капітуляцыі большасці буйных феадалаў у выніку царскіх рэпрэсій, праз 4 месяцы Каліноўскі быў вернуты ў склад Віленскага камітэта, а 31 ліпеня 1863 ізноў узначаліў яго.**

**У Кастуся Каліноўскага не было жадання здавацца і адступаць. На сваёй зямлі і за сваю зямлю ён змагаўся да апошняга. Ён не пакінуў адданых яму людзей нават калі сілы касінераў пачалі таяць і паўстанне мусіла перайсці да партызанскай барацьбы. Ад мары пра вольную Беларусь ён не адступіўся і перад смерцю – ў ноч перад павешаннем Кастусь Каліноўскі пісаў ліст да свайго народу, дзе заклікаў не спыняць змаганне за волю Радзімы.**

# Год памяці

***Прадстаўнікі грамадскай супольнасці, для якіх каштоўнасці свабоды з'яўляюцца найгалоўнейшымі, абвесцілі 2013-ты годам паўстання Каліноўскага. Увесь год актывістамі ладзяцца памятныя імпрэзы, вандроўкі, акцыі, выдаюцца інфармацыйныя матэрыялы і нават ствараюцца гульні на матывы гістарычных падзей. Давайце ўзгадаем найбольш заўважныя падзеі ў справе шанавання памяці касінераў за першае паўгоддзе 2013 году і даведаемся пра планы на бліжэйшую будучыню.***

Турагенцтва «Дэльфін Груп» адкрыла новы маршрут — «Шляхамі 1863 году». Удзельнікі экскурсіі наведваюць месца бітвы пад Мілавідамі — адной з самых значных бітваў паўстання Каліноўскага, а таксама іншыя мясціны, што звязаны з падзеямі 1863-64 гадоў і іх героямі-ураджэнцамі Беларусі. У праграме турыстычнай вандроўкі таксама — паўстанцкія песні пад крупнік.

Паспяховай была ідэя стварыць настольную гульню на гістарычныя матывы - «Паўстанцы». Такая думка прыйшла да галавы гарадзенскаму паэту, выкладчыку рэжысуры абрадаў і святаў Антону Янкоўскаму і дызайнерцы Настассі Лукашовай. Пад час гульні можна акунуцца ў атмасферу тых гадоў, пабыць самім Каліноўскім ці іншым героем паўстання, альбо, наадварот, - Мураўёвам-вешальнікам. Ёсць месца і простым селянам, якія, згодна «лёсу», могуць прымаць той ці іншы бок. Урэшце «хаду гісторыі» можна змяніць - павесіць Мураўёва і вызваліць Беларусь ад царскіх уладаў. Гульні-прэзентацыі з поспехам прайшлі ў самой Гародні, Менску ды іншых гарадах краіны. Карткавыя калоды можна набыць у асноўным праз інтэрнэт.

Выбітнай падзеяй стаў і першы ў сучаснай Беларусі дабрачыннага аўкцыёну па продажы карцін пад назвай «Тры партрэты Кастуся Каліноўскага». Мастак Мікола Купава выстаўляе на продаж свае працы,— партрэты нацыянальнага героя Беларусі, створаныя ў розны час. 50% ад атрыманых ад продажу сродкаў мастак збіраецца перадаць на рахунак рэканструкцыі кляштара базыльянаў у Воршы.

Падобныя ініцыятывы запатрабаваны і з пазітывам успрымаюцца беларускім грамадствам. Але, безумоўна, ёсць і сумныя прыклады спробаў перашкодзіць праявдзенню мерапрыемстваў ці нейкім іншым чынам зганьбіць імя Каліноўскага і ягоную ролю ў гісторыі Беларусі. Сярод апошніх такіх выпадкаў можна ўзгадаць сарваную акцыю памяці ў Горках. Тэрыторыя акадэмічнага дэндрапарку, на якой месціцца магіла паўстанца і куды заўжды ёсць вольны доступ, аказалася замкнёная. І акурат у той дзень, калі да месца пахавання збіраліся прыйсці мясцовыя актывісты з нагоды гадавіны вызвалення гораду сіламі каліноўцаў ад царскіх акупантаў. Замкнёнай брамай адміністрацыя сельгасакадэміі не абыйшлася - для надзейнасці і сам плот быў свежапафарбаваны.

Тут жа можна ўзгадаць і забарону акцыі памяці ў Баранавічах, і «навуковую канферэнцыю» кафедры філіяла Расійскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэта ў Менску, якая сабрала з дзесятак гісторыкаў, свята перакананых у тым, што «Каліноўскі ненавідзеў беларускі народ», а «Мураўёў распрацаваў сістэму мераў, якія ў сукупнасці можна вызначыць як праграму сацыяльна-эканамічнай, культурнай і этнічнай мадэрнізацыі беларускага сялянства» ды шэраг іншых прыкладаў. Аднак тых прыкладаў, дзеля справядлівасці варта адзначыць, не так і шмат. На фоне трывалага маўчання на тэму паўстання афіцыйных дзяржаўных чыноўнікаў і рэдкую ініцыятыву аматараў Мураўёва-вешальніка, можна смела сказаць, што заяўлены «год паўстання Каліноўскага» праходзіць надзвычай паспяхова. Добрае таму сведчанне - дзесяткі лакальных ініцыятыў, памятных канцэртаў і мерапрыемстваў, навуковых і папулярных публікацый, новых сюжэтаў на сувенірах ды футболках і шмат іншых рэчаў, што прымеркаваныя да гадавіны вызвольнага руху 1863-64 гадоў.

І спыняцца на дасягнутам актывісты не збіраюцца. У межах берасцейскай кампаніі «Шляхамі касінераў» падрыхтаваныя браслеты, налепкі на аўто з сімволікай паўстання Каліноўскага, а таксама майкі і дыскі «Песні касінераў».

Каардынатар грамадскай кампаніі Віктар Клімус распавёў пра свежую прадукцыю «Шляхоў касінераў»:

***- «Кожнаму беларусу мы прапануем публічна выказаць, візуалізаваць сваю пазіцыю адносна паўстання 1863-64-х - праз тыя рэчы, якія ён можа насіць на сабе ці на сваім аўто, выкарыстоўваць у сваім асяродку. Гэта сімвалічны акт салідарнасці, сучаснай падтрымкі тых нашых продкаў, хто змагаўся за волю ўсяго народу 150 год таму. Для паўстанцаў ідэі свабоды, вярхоўнасці закону, роўных правоў былі святымі - яны паміралі за іх. Самае малое што можа зрабіць наша пакаленне - гэта помніць і шанаваць сваіх герояў. Помніць пра іх самім і па магчымасці нагадваць іншым, хто, можа, забыўся ці для каго гэтыя каштоўнасці цяпер падаюцца не такімі важнымі, якімі яны ёсць насамрэч.»***



Жаночы бранзалет-кайданкі часоў паўстання і сучасная атрыбутыка прыхільнікаў Каліноўскага

На думку Віктара, браслеты, майкі, налепкі на аўто і дыскі з песнямі могуць стаць адным з тых маркераў павагі і памяці пра касінераў, з дапамогай якіх кожны неабыякавы беларус зможа выказаць сваю прыхільнасць ідэалам свабоды, за якія ішлі на смерць касінеры Каліноўскага. У часы паўстання нашыя продкі, хто не змагаўся ў баях, таксама актыўна праяўлялі сваю салідарнасць з паўстанцамі: жанчыны апраналі траур на публічныя пакаранні інсургентаў, насілі сімвалічныя ўпрыгожванні ў выглядзе кайданоў - за што пасля можна было трапіць у турму, пазбавіцца шляхецтва і ўласнага маёнтку. У гарадах ладзіліся маўклівыя акцыі смутку, целы страчаных каліноўцаў, негледзячы на жорсткую забарону, хавалі. Сяляне падтрымлівалі паўстанцаў ежай, давалі прытулак, за што па загаду Мураўёва часам спальваліся цэлыя вёскі. Гэта былі страшныя часы, у якіх нараджалася ідэя вольнай Беларусі. Памяць пра гэтыя гістарычны перыяд і пашану да герояў тых часоў мы мусім назаўжды захаваць у сваіх сэрцах.




Наклад: 299 асобнікаў. Надрукавана на ксераксе.
Выдадзена 15.05.2013 г. Берасце.
Кантакты рэдакцыі:
Віктар Клімус МТС: (029) 227 52 12
Life: (025) 513 19 20
Павел Дайлід: (029) 522 82 30

Больш інфармацыі шукайце тут:
vk.com/grunt_brest
За матэрыялы для артыкулаў дзякуем:
http://arkushy.narod.ru/kalinouski/index.htm